



— Чаму яна такая ненажэрная?
— А ты паспрабуй такое пуза пракарміць!

Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## «Агульная справа»

***Слонім.*** «Гэта ж для агульнай справы ўсё!» — апраўдваўся старшыня жыллёва-будаўнічага спажывецкага кааператыва, калі яго злавілі на крадзяжы грошай з аб'яднання. З агульнай касы для «агульнай справы» ён купіў сабе мабільны тэлефон (каб весці дзелавыя перагаворы), адзенне (каб самавіта выглядаць перад рознымі начальнікамі), ежу (каб не зарабіць на працы гастрыт), мэблю (каб паставіць потым у пад'ездзе новага дома для ўтульнасці). Словам, было патрачана больш за 25 мільёнаў рублёў.

Зараз разглядаецца пытанне аб прыцягненні старшыні ЖБСК г. Слоніма да адказнасці. «Агульная справа» змянілася крымінальнай...




## «Двайнікі» на чыгунцы

***Стаўбцоўскі раён.*** Неверагодныя «цуды» адбываліся на працягу двух мінулых гадоў пры будаўніцтве пад'язной чыгункі паміж новым радовішчам торфу і ААТ «Торфабрыкетны завод «Нёман». У рабочых з Барыса, якія працавалі на будоўлі, назіралася раздваенне асобы. Пасля рабочага дня яны ехалі дахаты, а іх «двайнікі», як сведчаць дакументы, заставаліся на месцы і нават атрымлівалі




камандзіровачныя. Такое раздваенне абышлося ў больш чым 180 мільёнаў рублёў. Здарылася і яшчэ шмат іншых «цудаў» — незаконная выплата асобным рабочым заробку, адступленні ад праектна-каштарыснай дакументацыі...

Пасля праверкі кантралёраў «дзівосы» ўраз скончыліся. Масавае раздваенне асобы было спынена, парушэнні пры будаўніцтве выпраўлены, незаконна выплачаныя грошы вярнуліся ў бюджэт. А дырэктар падраднай арганізацыі тлумачыць цяпер прадстаўнікам кампетэнтных органаў прыроду гэтых «цудаў».

## У любым месцы ў любы час

***Пінскі раён.*** Менавіта па такім прынцыпе «працаваў» жыхар вёскі Галева, які займаўся продажам і купляй валюты. Па просьбе бізнес-кліентаў, не зважаючы на час сутак, ён прыязджаў у любую кропку горада і раёна. Аператыўныя паездкі працягваліся з красавіка 2012 па студзень 2013 гадоў і прынеслі больш за 270 мільёнаў рублёў навару.

Неўзабаве сустрэцца з валютчыкам захацелі і фінансавыя міліцыянеры. Мужчыну затрымалі, знайшлі ў яго больш чым 5 тысяч долараў, 62 тысячы расійскіх рублёў, 45 мільёнаў беларускіх рублёў... Тэрмін, які пагражае махінатару (да пяці гадоў зняволення), ён рызыкуе правесці «ў пэўным месцы на пэўны час».




## «Дзіравая» мяжа

***Гродзенская вобласць.*** Бясконтрольная «дзірка» ўтварылася на пункце пропуску праз мяжу «Каменны Лог». Праз яе «казачным» спосабам з лістапада 2011 па студзень 2012 гадоў шматлікія машыны з падкаранціннай прадукцыяй праязджалі бясплатна. Такім чынам, міма бюджэта за гэты час «праехаў» 1 мільярд 300 мільёнаў рублёў.

«Дзірку» ўрэшце залаталі. Але яе паходжанне службовыя асобы Гродзенскай абласной дзяржаўнай інспекцыі па насенняводстве, каранціне і ахове раслін мусяць усё ж патлумачыць: у адносінах да іх узбуджаны крымінальныя справы.

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

**Міхась СЛІВА**




У нашым аддзеле з'явіўся новы супрацоўнік. Інжынер Арцёмаў. І хоць імя ў яго мілагучнае і прыгожае – Уладзіслаў Данілавіч, – усе, не згаворваючыся, пачалі называць яго толькі па прозвішчы. Відаць, таму, што калектыў наш ніяк не мог зразумець гэтага чалавека.

Мяркуйце самі. Праз кожную гадзіну, а то і часцей, у нас робіцца кава-паўза. Усе дзеляцца любімымі гатункамі гарбаты ці кавы, сакрэтамі іх прыгатавання, а таксама навінамі. Арцёмаў жа – ні ў якую! Працуе ўвесь час. Гэта адразу насцярожыла.

Яшчэ ў нас ёсць перакуры. Таксама любімая справа нашых супрацоўнікаў. І па адным ходзім курыць, і грамадой... Арцёмаў жа сядзіць на сваім рабочым месцы як прыклееены.

Пасля працоўнага дня мы па даўняй завядзёнцы забягаем хто куды: то куфель піва выпіць, то чарачку гарэлкі ці шклянку-другую віна прапусціць. Арцёмаў жа адразу імчыць на аўтобусны прыпынак, спяшаецца дадому. На ўсе нашы прапановы толькі адмоўна круціць галавой.

Вось тут і пачалі мы думаць-разважаць, што за чалавек гэты Арцёмаў. Нейкі дзіўны, як не з нашага свету. Сёй-той нават меркаванне выказаў, што Арцёмаў у нас з'явіўся невыпадкова. Маўляў, усё фіксуе, запамінае, а потым будзе сігналізаваць наверх. Не трэба і кантралёраў-рэвізораў прысылаць...

Асабліва захваляваліся людзі старэйшага, перадпенсійнага ўзросту. Першым не вытрымаў эканаміст Сядзёлкін – адмовіўся піць гарбату і ні разу за дзень не выйшаў пакурыць, хоць раней, бывала, больш часу праводзіў з цыгаркай, чым з калькулятарам.

– Не забывайце, што мы жывём у дваццаць першым стагоддзі! – пачаў тлумачыць ён свае перамены. – Паўсюль працуюць высокаадукаваныя, энергічныя, крэатыўныя маладыя спецыялісты. Так што жартаваць не трэба!..

Затым яго прыклад пераняла рэферэнт Аксана Сямёнаўна. Яна ўрэзала ў два разы свае перакуры і замест чатырох кубкаў кавы за дзень пачала выпіваць толькі два. Маўляў, не хачу арганізм свой надта нагружаць...

Літаральна праз тыдзень і астатнія супрацоўнікі перайшлі на новы рэжым працы і адпачынку. Як і Арцёмаў, пачалі займацца справамі. А потым наогул адмовіліся ад кава-паўз ды шматлікіх перакураў і толькі напружана працавалі...

Недзе праз месяц Арцёмаў з'явіўся на работу вельмі вясёлы, ажноззяў увесь. Заварыў сабе кавы, дастаў з партфеля пачак дарагіх цыгарэт і падаўся на паўгадзіны ў курылку. Мы здзіўлена пераглянуліся і моўчкі працягвалі працаваць... Арцёмаў піў каву і курыў яшчэ некалькі разоў. А ў канцы рабочага дня прапанаваў зайсці ў піўбар. Мы анямелі...

У наступныя дні Арцёмаў працягваў нас здзіўляць: піў каву, курыў, нават пахваліўся, што ўчора напіўся ўволю піва.

Цярпенне лопнула ў таго ж Сядзёлкіна:

– Як гэта зразумець, шаноўны Уладзіслаў Данілавіч? – зняўшы акуляры, звярнуўся ён да Арцёмава. – То вы катэгарычна адмаўляліся ад перакураў, нават гарбаты з намі выпіць не хацелі, а цяпер разышліся на ўсе застаўкі...

– Раней дактары забаранялі, бо зрабілі аперацыю на страўніку. А цяпер абследавалі і сказалі, што зусім здаровы! – з радаснай усмешкай адказаў Арцёмаў і дастаў з кішэні чарговую цыгарэту...

*г. Рагачоў.*




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Вырашыла я неяк зрабіць любімай унучцы Танечцы маленькі падарунак. Вельмі ж любіць яна карыстацца рознымі шампунямі. Хоць маленькая, а хоча выглядаць самай прыгожай!

У магазіне выбар дзіцячага шампуню быў вельмі вялікі: і каб не цяклі слёзкі, калі пена ў вочы трапіць, і каб валасы лёгка расчэсваліся, і каб блішчэлі, не раўнуючы, як брыльянты... Але мяне зацікавіла вось гэтая каробачка.




Дзе тут поні, дзе тут дзеці? На малюнку – дарослая дзяўчына на дарослым кані! А можа, гэта чароўны шампунь? І калі пяцігадовая дзяўчынка памые ім галаву, дык адразу ператворыцца ў дарослую прыгажуню? Я ўсё ж вырашыла не рызыкаваць, тым больш што каштуе гэты цуда-шампунь 127 тысяч рублёў...

**Людміла БАРЫСАВА**, *г. Мінск.*




Вось такі фотаздымак даслаў нам у рэдакцыю па электроннай пошце наш даўні сябар, шчыры вожыкавец, які ўмее бачыць недарэчнае і смешнае, **Сяргей ЛАПЦЁНАК** з *г. Мінска*. Гэту энцыклапедыю ён заўважыў ў кіёску «Белсаюздруку» каля кінатэатра «Кастрычнік».

Дзіўны ўсё-ткі алфавітны ўказальнік прыдумалі выдаўцы кнігі (на жаль, не атрымалася даведацца, хто яны, бо кіёск быў зачынены). Звычайна на вокладцы кнігі для «арыентавання» друкуюцца літары ці нават цэлыя словы, а тут, мабыць, у мэтах эканоміі (паліграфія сёння ж дарагая), вырашылі абысціся складамі.

Вось і атрымалася: «нас–ого», а побач яшчэ і лічба 19. Можа, калектыў выдавецтва складаецца менавіта з такой колькасці людзей, і яны вельмі ганарацца гэтым? Дакладна не вядома, але язык так і свярбіць праскланяць далей: іх – уга, ім – ага і г. д. А ўвогуле, а-яй-яй!

# ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ ЛЕСАВІКІ...



## ФЕЛЬЕТОН

Кожны год вясной у лесе паблізу Мінскага мора збіраюцца лесавікі з усёй Беларусі. Абмяркоўваюць планы на будучыню, вынікі мінулага года, перспектывы развіцця. Калі раней на сход сыходзілася ўсяго шэсць лесавікоў (па адным з кожнай вобласці), то цяпер іх налічваецца каля трыццаці. А як інакш! Нехта адказвае за агульны стан лесу, сочыць за яго ростам, правільнай высечкай; хтосьці глядзіць за пасадкай новых дрэў; камусьці трэба паклапаціцца пра птушак і жывёл. Некалькі гадоў таму ў гэтым лясным «міністэрстве» з'явілася і новая пасада – лесавік, які сочыць за тымі «дарамі лесу», якія адпраўляюцца на нашы прадпрыемствы. Бо чым рацыянальней яны будуць выкарыстоўвацца, тым даўжэй зялёныя «лёгкія» Зямлі будуць радаваць нас і нашых нашчадкаў. А яшчэ ўсе гэтыя абаронцы лесу любяць часам пастрашыць людзей, якія дрэнна паводзяць сябе ў іх уладаннях. (Можа, і з вашымі знаёмымі такое здаралася?)

*Працяг на стар. 8.*






# Свой гумар, свой жанр

*Нездарма кажуць, што Ушаччына – «паэтычны пуп» Віцебшчыны. Пашанцавала ў гэтым краі нарадзіцца і Міхасю МІРАНОВІЧУ (1948). І хоць па прафесіі ён радыёфізік (скончыў Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франко), шмат гадоў працуе на розных пасадах на віцебскім «Віцязі», да паэзіі мае дачыненне самае непасрэднае. Гумарыстычныя вершы пачаў пісаць яшчэ ў студэнцкія гады. Затым актыўна супрацоўнічаў з газетамі і часопісамі былога Савецкага Саюза, друкаваўся ў айчыннай перыёдыцы.*

*Сёння Міхаіл Канстанцінавіч стала выступае ў жанры сатыры і гумару: піша мініяцюры, пародыі, вершы, перакладае з украінскай і польскай моў. Друкаваўся ў калектыўных зборніках, мае аўтарскую кнігу вершаваных мініяцюр. Паэт нават жанр свой прыдумаў – міранізмы.*

*Не выпадае здзіўляцца, што М. Міранові даўно сябруе з «Вожыкам». Як жа інакш? Невыпадкова атрымаў у 2003 годзе і прэмію імя К. Крапівы, заснаваную часопісам «Вожык».*

*Рэдакцыя шчыра віншуе Міхаіла Канстанцінавіча з 65-годдзем, жадае яму творчага плёну, поспехаў ва ўсім, моцнага здароўя. Ну, і запрашае чытачоў пасмяяцца разам з юбілярам.*



*Шарж Пятра КОЗІЧА.*

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## МІРАНІЗМЫ

### Хто што збірае?

У гаях,
Дзе бярозы, дубы,
Летам людзі
Збіраюць грыбы.
А ў бальніцах
Інакш ўсё ідзе:
Тут зімой
Грып збірае людзей.



### Пятніца

Шмат Рабінзон
Без жонкі бедаваў.
Так без жаночай ласкі
Было горка,
Што дзікуна
Ён Пятніцай назваў –
Не Панядзелкам, скажам,
Ці Аўторкам...

### Трэцім будзеш?

Якія часам
Дзіўныя мы людзі!..
Як прыклад,
Я наступнае б згадаў –
Мяне пыталі часта:
– Трэцім будзеш?
А я заўсёды
Першым быць жадаў!

### Супадзенне поглядаў

– Погляд твой, –
Суседа Фрол пытае, –
З жончыным
Заўсёды супадае?..
І пачулася ў адказ
Ад жонкі Насці:
– Хай ён паспрабуе
Не супасці!..



### Плюсы і мінусы

Гарэлка,
Несумненна, мае
Плюсы і мінусы
Свае,
Бо часта
Розум адымае,
А вось хваробы –
Дадае.



### Непрыгожы пол

Ці, можа, чыйсьці
То прыкол
Адносна нас, мужчын,
Варожы:
Жанчын завуць
Прыгожы пол,
А мы, выходзіць,
Непрыгожы?..

*г. Віцебск.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



*Як стала вядома...*

## Адкрыюцца новыя аддзяленні паштовай сувязі

Міністр сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь М. Панцялей уважліва прачытаў пісьмо жыхаркі г. Мінска В. Нядзелькі, надрукаванае ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» у № 11 за 2012 год, і патлумачыў сітуацыю. Аддзяленне паштовай сувязі № 17 г. Мінска (АПС-17) размешчана ў жылым доме, канструктыўныя асаблівасці якога не дазваляюць выканаць перапланіроўку памяшканняў, што адпавядала б тэхналагічным патрабаванням прыёму, апрацоўкі і захоўвання паштовых адпраўленняў. Улічваючы павышаную нагрузку, з чэрвеня 2012 года было арганізавана трэцяе рабочае месца, аднак з-за некамплекту штату аператараў не выкарыстоўвалася. Гэтае пытанне вырашаецца (цяпер там праходзіць вытворчую практыку студэнтка каледжа сувязі).

Увогуле будаўніцтва АПС ажыццяўляецца ў адпаведнасці з генеральнымі планамі забудовы жылых раёнаў. У сувязі з забудовай жылых масіваў Каменная Горка і Масюкоўшчына плануецца адкрыццё двух аддзяленняў паштовай сувязі. У мікрараёне Масюкоўшчына-3 (вул. Жыновіча, 21) будаўніцтва АПС завершана. Зараз ДВА «Мінскбуд» вядуцца работы па ліквідацыі недахопаў. Адкрыццё аддзялення плануецца на першае паўгоддзе 2013 года. У мікрараёне Каменная Горка-1 (вул. Кунцаўшчына, 35) будаўніцтва АПС планавалася завяршыць у 2011 годзе. РУП «Белпошта» звярнулася ва УКБ Мінгарвыканкама з просьбай прыняць меры па паскарэнні завяршэння будаўніцтва. Адкрыццё вышэй узгаданых АПС дазволіць зняць нагрузку і палепшыць якасць паслуг, якія аказваюцца ў АПС-17.

Акрамя таго, РУП «Белпошта» праводзіць мэтанакіраванаю работу для вырашэння праблемы ўзнікнення чэргаў (у прыватнасці, арганізуюцца асобныя месцы для абслугоўвання карпаратыўных кліентаў). Для паляпшэння якасці абслугоўвання на АПС усталяваны паштовадаведачныя тэрміналы, якія дазваляюць карыстальнікам самастойна аплачваць некаторыя паштовыя паслугі і ажыццяўляць камунальныя плацяжы, плату за паслугі электрасувязі, сотавай рухомай сувязі, інтэрнэт-паслугі і іншыя пры дапамозе наяўных грашовых сродкаў і банкаўскіх пластыкавых картак. Па жаданні пенсіянераў прадугледжана магчымасць атрымання пенсіі як у АПС, так і дома.









Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## Білетаў хапае

Дырэктар філіяла «Мінскі аўтавакзал» КТУП «Мінсктранс» В. Палаўчэня разгледзеў пісьмо жыхаркі г. Вілейка Ю. Габрусевай, змешчанае ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» у № 12 за 2012 год, і прааналізаваў сітуацыю. Паводле яго інфармацыі, у любую пятніцу снежня мінулага года па стану на 12-00 на вячэрнія рэйсы да Вілейкі былі вольныя месцы. (Праўда, 21 і 28 снежня не было рэйсаў аўтобусаў «Мінск–Свір» і «Мінск–Вілейка» на 16-40.) Між тым, для гарантаванай паездкі ў вызначаны час білет можна набыць за 15 дзён да паездкі на любым пасажырскім тэрмінале г. Мінска, у інфакіёсках ААТ «Беларусбанк» г. Мінска, а таксама пры дапамозе сеткі інтэрнэт на сайце ticketbus.by. Білет таксама можна забраніраваць за 15 дзён па тэлефонных нумарах 114 (для жыхароў г. Мінска і Мінскага раёна) або 89021014114 (для жыхароў Беларусі).

## Цэны на лекі кантралююць

Намеснік старшыні Камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама М. Скавародка вывучыў пісьмо жыхаркі г. п. Краснаполле Магілёўскай вобласці А. Мельнікавай, змешчанае ў рубрыцы «Вожыку» пішуць...» у № 11 за 2012 год, і адказаў наступнае. Цэны на лекавыя сродкі ў аптэках усіх форм уласнасці фарміруюцца строга ў рамках Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11.08.2005 г. № 336 «О формировании цен на лекарственные средства, изделия медицинского назначения и медицинскую технику», які вызначае ў тым ліку памеры аптовых і гандлёвых надбавак. Узровень рознічных цэн на імпартуемыя лекавыя сродкі напрамую залежыць ад кантрактнай цаны пастаўшчыка (вытворцы) і афіцыйнага курса валют Нацбанка Рэспублікі Беларусь на дату змяшчэння тавара пад мытны рэжым свабоднага абароту. Таму ў розных аптэках цэны розняцца па аб'ектыўных прычынах і залежаць ад перыяду паступлення тавара, змен у гэтым перыядзе адпускных цэн вытворцы і афіцыйнага курса валют.

У мэтах кантролю за ўзроўнем цэн на лекавыя сродкі па ўказанні Міністэрства аховы здароўя РУП «Белфармацыя» праводзіць адзін раз у два тыдні маніторынг рознічных цэн па найбольш запатрабаваных найменнях лекавых сродкаў (спіс кантралюемых найменняў абнаўляецца штоквартальна).

## Прыцягнуты да адказнасці

Як паведаміў першы намеснік старшыні Полацкага райвыканкама М. Баратынскі, за «Мёртвыя каровіны душы» («Вожык» № 1 за 2013 год) вінаватыя асобы прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. У сельгаспрадпрыемстве «Островщина» прыняты меры па недапушчэнні надалей узгаданых у матэрыяле парушэнняў. Праведзена дадатковая вучоба з бухгалтарамі, загадчыкамі ферм, заатэхнікамі і ветурачамі сельгаспрадпрыемстваў раёна па правільным афармленні пярвічных дакументаў па апрыходаванні прадукцыі жывёлагадоўлі і яе рэалізацыі.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Алега КУРПІКА.



Малюнак Алега ПАПОВА.

# Думкі ўголас

Калі цябе пачынае адольваць склероз, час брацца за мемуары.

Каб тваю думку не ўкралі, трымай язык за зубамі.

Не памыліся, вышукваючы чужыя памылкі.

І тыгр любіць антылопу, калі есць яе.

У родным калектыве ён пачуваўся, як Архімед у ванне: ледзь пераадольваў выштурхоўваючую сілу.

Не хвалі работніка за тыя якасці, якіх ты не знаходзіш у сябе. Гэта небяспечна для тваёй кар'еры.

Не надта напінайся ў пошуках апраўданняў: могуць падумаць, што ты сапраўды маеш рацыю.

Цвёрды лоб – зручнае месца для кансервавання думак.

Іваноў умеў энергічна працаваць. Праўда, языком.

Калі ты дасягнуў поспеху – гэта заслужаная ўзнагарода. Калі тое ж самае атрымаў калега – гэта незаслужаная халява!..

Калі недахопы артыстычна выпінаць, яны становяцца станоўчымі якасцямі.

З законам часцей сутыкаецца той, хто імкнецца яго абысці.

Думкі, як і дзеці, проста так не нараджаюцца.

Не ўзбірайся на самую верхнюю прыступку службовай лесвіцы: не будзе за што трымацца.

Калі вылучэнне твайго падначаленага на высокую пасаду непазбежна, рабі выгляд, што гэтаму паспрыяў менавіта ты.

Крылы для палёту патрэбныя не толькі птушцы, але і чалавеку, які задумаў паказаць пяткі.

**Заўважыў Міхаіл УЛАСЕНКА,**
*г. Горкі.*



*Працяг. Пачатак на стар. 3.*

У гэтым годзе сход прызначылі на канец сакавіка. Ужо з самай раніцы на спецыяльную паляну пачалі прыбываць лесавікі. Першымі прыйшлі мінскія захавальнікі лесу, на дзікіх гусях прыляцелі гродзенскія і гомельскія, на зайцах прыскакалі віцебскія і магілёўскія лесавікі, а брэсцкія – прыплылі на лодцы.

Калі нарэшце ўсе расселіся па пнях, самы галоўны захавальнік лесу Дуб Дубоўскі падышоў да трыбуны, страсянуў барадой, парослай мохам (прычым адтуль выскачыла жаба і з незадаволеным «ква» хутка паскакала з паляны), і сказаў:

– Штогадовы сход лесавікоў Беларусі аб'яўляю адкрытым. Сёлета мы заслухаем галоўнае пытанне: рацыянальнае выкарыстанне лясных рэсурсаў. Слова даецца Бэзу Падбярозавіку.

Да трыбуны выйшаў худзенькі лесавічок з невялікай бародкай і маленькім падбярозавікам на галаве, які тырчаў скрозь растрапаныя валасы. Паправіўшы на плячах дзяружку, ён пачаў:

– Добры дзень, паважаныя ўдзельнікі сходу! Вельмі рады, што ў гэтым годзе мы прысутнічаем тут у поўным складзе. Калі дазволіце, я хацеў бы адразу перайсці да галоўнага. Дзяржава ўжо не першы год падтрымлівае і інвесціруе грошы ў развіццё арганізацый канцэрна «Беллеспаперапрам». У перыяд з 2010 па 2012 год было ўкладзена больш за адзін трыльён рублёў! Але і гэта астранамічная сума не дазволіла прадпрыемствам перайсці на новы ўзровень і стаць самаакупнымі, прыносіць прыбытак. Так, напрыклад, па выніках працы амаль за ўвесь 2012 год, стратнымі з'яўляліся дзесяць арганізацый «Беллеспаперапрама». Максімальныя страты атрымалі ААТ «Светлагорскі ЦКК», «Папяровая фабрыка «Чырвоная Зорка», ААТ «Папяровая фабрыка «Спартак».

Бэз Падбярозавік перавёў дыханне, паглядзеў на прысутных; упэўніўся, што ўсе яго ўважліва слухаюць, і працягнуў:

– Мы зрабілі ўсё магчымае, каб высветліць, якія прадпрыемствы нядобрасумленна распарадзіліся інвестыцыямі, што было зроблена для паляпшэння вытворчасці, а на чым некаторыя арганізацыі «пагарэлі». Свой даклад прапануе Махавік Сасоннік, прадстаўнік Магілёўскай вобласці.

Да трыбуны хутка падбег жвавенькі дзядок, дастаў бяросту і пачаў расказваць:

– Тут ужо было сказана пра папяровую фабрыку «Спартак», учора я адправіў туды чараду вераб'ёў-інспектараў для збору інфармацыі аб прычынах стратнай дзейнасці прадпрыемства. Зусім нядаўна са спецыяльнага задання вярнулася група мышэй-кантралёраў. Яны займаліся пытаннем выяўлення завышэння кошту і няякаснага выканання будаўнічых работ на ААТ «Магілёўдрэў». І што вы думаеце, мае дарагія браты-лесавікі, яны высветлілі? Кошт работ быў завышаны на 170 мільёнаў рублёў! А калі ж мае падапечныя яшчэ забеглі ў ААТ «ФанДАК», то даведаліся ад мясцовых знаёмых, што бетонная падлога, якую там клалі абы-як, каштавала 960 мільёнаў рублёў!

– А вось мне сарока на хвасце прынесла, што на прадпрыемствах не толькі завышаюцца цэны за будаўнічыя работы, але праекціроўшчыкі з будаўнікамі працуюць надзвычай марудна! З-за гэтага прастойвае замежнае абсталяванне, набытае для мадэрнізацыі заводаў, – рэзка ўстаўшы з месца, выкрыкнуў лесавік з Брэсцкай вобласці. – Гэта ж думаць трэба: на тры з лішнім гады зацягнуўся запуск вытворчасці плітнай прадукцыі ў ААТ «Барысаўдрэў», «Віцебскдрэў», «Мазырскі ДАК», на кожным з іх без справы ляжыць імпартнае абсталяванне на суму каля трыццаці мільёнаў еўра!

Пасля гэтых слоў падхапіліся лесавікі з астатніх абласцей, наперабой пачалі расказваць пра тыя парушэнні, якія заўважылі.

– Як так можна?

– Што рабіць будзем?

– Хутка і ахоўваць, берагчы не будзе чаго!.. – чуліся незадаволеныя галасы.

– Цішэй, цішэй, браты мае! – зноў узяў слова галоўны захавальнік лесу Дуб Дубоўскі. – Вядома, можна было б не пусціць людзей у нашы ўладанні, але гэта няправільна. Бо ўсе нашы дзяды і прадзеды змагаліся за тое, каб лес дапамагаў чалавеку. І спакон веку людзі разумелі гэта. Толькі чамусьці ў апошні час чалавек пачаў успрымаць гэта, як нешта належнае. І шчыра вам скажу: гэта насцярожвае мяне. Таму прапаную! Даць кіраўніцтву вышэй узгаданых прадпрыемстваў і канцэрна «Беллеспаперапрам» адзін год на ліквідацыю ўсіх непаладак ды парушэнняў. Калі ж яны не зробяць гэтага, то тады ўсімі нашымі лесавіцкімі сіламі будзем змагацца за нашы лясы!

– Правільна!

– Сапраўды!

– Я іх так напалохаю, што не сунуцца больш да мяне! Палёвак, калі што, на іх нашлю!.. – пачуліся згодныя выкрыкі лесавікоў.

Дуб Дубоўскі пачакаў, пакуль скончыцца шум, і пастанавіў:

– Значыцца, праводзім галасаванне! Хто за тое, каб даць кіраўніцтву канцэрна «Беллеспаперапрам» і стратных прадпрыемстваў год на выпраўленне сітуацыі? Падняць рукі.

Хтосьці з лесавікоў уздымаў руку ўпэўнена, хтосьці старанна абдумваў сваё рашэнне (можа, не паспеюць за год з іх ранейшымі тэмпамі?), але ў выніку над палянай падняўся лес рук.

– Аднагалосна, – палічыўшы, сказаў галоўны захавальнік лесу. – На гэтым сход аб'яўляю закрытым! Але чакаю справаздачы аб праведзенай рабоце на тых прадпрыемствах, якія сёння згадваліся.

Пасля гэтых слоў ён павольна пайшоў і нечакана знік за дрэвамі. Зазбіраліся ў родныя ўладанні і іншыя лесавікі. Бо нельга пакідаць свой лес надоўга без нагляду...

**Наталля КУЛЬГАВАЯ**.



# Першакрасавіцкі мікс

Некалькі гадоў запар у Мінску пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі напярэдадні Дня смеху ладзяцца выставы гумарыстычнага малюнка і карыкатуры. Гэта стала добрай традыцыяй і дазволіла акцэнтаваць увагу на беларускай карыкатуры. З поспехам прайшлі выставы карыкатур, гумарыстычных малюнкаў, шаржаў супрацоўніка часопіса «Вожык», вядомага мастака-карыкатурыста Аляксандра Каршакевіча і вядомага мастака, члена Беларускага саюза мастакоў, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Сяргея Волкава.

Сёлета плануецца адкрыць сумесную выставу часопіса «Вожык» і газеты «Звязда»: карыкатуры, гумарыстычныя малюнкі, шаржы вядомых мастакоў-карыкатурыстаў «Вожыка» і гумарыстычныя фотаздымкі фотакарэспандэнта «Звязды» Анатоля Клешчука. А. Кляшчук — аўтар больш чым 30-ці персанальных і ўдзельнік шматлікіх калектыўных фотавыстаў у Беларусі і за яе межамі, лаўрэат Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2009» у намінацыі «Лепшы фотамастак»...

Зрэшты, няхай лепш фотаздымкі скажуць за аўтара. І не хавайце сваіх усмешак: магчыма, за вамі назірае нечы фотааб'ектыў!..












Фотаздымкі Анатоля КЛЕШЧУКА.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

# КАМЕНЬЧЫКІ З-ЗА ПАЗУХІ

### За ганарар усё магчыма

За ганарар і тэнар іншым разам
Спявае барытонам, нават басам...

### З аднаго дрэва

Разьбяр па дрэве, грахаводнік Сева,
Анёлаў і чарцей рабіў з аднаго дрэва.



### Бясплатны сыр

Знойдзецца заўсёды злодзей лоўкі,
Здольны сыр украсці з мышалоўкі.




### Падзел маёмасці

Шлюб скасавалі, закончылі гульні,
Ды не падзеляць ўсё ложак агульны.

### Хто як

Адны шалеюць ад зелля дурнога,
Другія – ад грошай, калі іх замнога.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

### У начным завулку

Спынілі махляра рабаўнікі...
«Ды што вы, мужыкі! Я сам такі!..»

### Лягчэй ігнараваць

Лягчэй ігнараваць культуру,
Чым памяняць сваю натуру.



### Старасць — не радасць

І эстэт на старасці гадоў
Запісацца ў цынікі гатоў.

### Выбар Музы

Спрадвеку Муза творцаў бітых
Наведвае часцей, чым сытых.

### Язык — мой вораг

Пакуль вучыўся язык за зубамі трымаць,
Дык зубы ўсе страціў, няма чым жаваць.

### Немаёмныя не плацяць

Немаёмных усіх нават прагны Харон
Перавозіць дарма праз раку Ахерон.

### Стрэляны воўк

Пазавешвалі людзі сцяжкамі ўвесь лес.
Воўк на іх памачыўся і... знізу пралез.



### Калі праб'е час

Калі праб'е няўмольны час,
Не думай: гэта не для нас.

### Важкі ўдар

Хаця баксёр і выглядае гномам,
Затое б'е, нібыта ломам.

### Фанат

Ён па прысудзе вуліцу мяце –
«Суддзю на мыла!» – крыкнуў... у судзе.

### Самагонка

Прайшла агонь, ваду і трубы медныя,
Каб ачмураць мазгі п'янтосаў бедныя...



# ШЛЯХІ-ХІ-ХІ




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# 1 красавіка



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.






Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнкі Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Кнігарня «Вожыка»






*У канцы мінулага года ў свет выйшаў «Аўцюкоўскі каляндар». Яго аўтары – пісьменнік Уладзімір Ліпскі і мастак Алег Карповіч.*

*Вось што кажуць самі аўтары ў прадмове. «Даўно паверыў: смех – дар Божы. Смяюцца ўсе, але кожны па-свойму... Ведаю адно: лепш жартаваць, чым гараваць. Дык давайце, сябры, весяліцца, як гэта ўмеюць рабіць мае землякі-аўцюкоўцы. У свой час я напісаў пра іх, Каласкоў ды Калінак, кнігу жартаў. Цяпер там, у Малых і Вялікіх Аўцюках, праходзяць Усебеларускія фестывалі народнага гумару. Там падчас свята збіраецца да трыццаці тысяч чалавек. Як весела, як хораша ўсім! Чаму? Ды таму, што жарт, анекдот, падколка, прыпеўка, вясёлая байка – увесь гэты фальклор вельмі кранае душу кожнага чалавека. Добры смех ці не самы найлепшы наш лекар» (Уладзімір Ліпскі). «...І павер: ты будзеш адчуваць сябе яшчэ лепш, калі праглядзіш і прачытаеш гэтае незвычайнае выданне да канца. Вядома ж: смех – толькі на здароўе. А з надрукаванага ў гэтай кніжцы ты будзеш не проста ўсміхацца, а рагатаць! Чаму? Бо прачытаеш аўцюкоўскія анекдоты і паглядзіш малюнкі...» (Алег Карповіч).*

*У календары, акрамя таго, можна запоўніць «Аўцюкоўскую спавяданку» за пражыты дзень і ноч: «У клетачку дня трэба ўпісаць альбо нейкую літару з прапанаванага алфавіта, або слова, якое ацэніць ваш дзень». Напрыклад, літара А – адпачываў, адлежваўся, адлыньваўся, ачухваўся, апахмяляўся...*

*Пагартаем жа гэты каляндар і парагочам.*

**Уладзімір ЛІПСКІ**

## Аўцюкоўскі каляндар

Прашу аўцюка, які сядзіць на лаве, расказаць анекдот.

– А-а, у мяне іх дома цэлая кніга, – хваліцца Каласок.

Сэрца маё здрыганулася, во, думаю, скарб грабяну.

Прыводзіць аўцюк у хату, лезе на печ і падае мне маю кнігу «Аўцюкоўцы».

***

На фестывалі ў Аўцюках з дасціпнымі анекдотамі маглі сапернічаць хіба што прыпеўкі. Яны сыплюцца, як жалуды з дуба. Каму ў лоб, таму балюча. Усім астатнім – смешна.

***

Інвалід Максім прыдумаў прыпеўку:

Харашо таму жывёцца,
У каго адна нага.
І сапог нямнога рвёцца,
І парцяначка адна.

***

Іван з малых Аўцюкоў жаліцца суседу:

– Учора зайшоў у клуб. Думаў, там людзі гуляюць, а ж то – настаўнікі.

***

– Ты – злодзей.
– А ты сам – аўцюковец.
От і пагаманілі.

***

Дзве аўцючкі зайшлі ў калінкавіцкі універмаг. Адна – унізе, на першым паверсе. Другая – уверсе, на другім паверсе.

Тая, што што зверху, крычыць:

– Ганна, ты брала Івану на штаны, колькі трэба?

Тая, што знізу, крычыць на ўвесь універмаг:

– Метар дзесяць!.. А калі з клінам на срацы, то метар дваццаць!..

***

– Калабок, куды коцішся?
– Я не калабок.
– Хто ж ты?
– Я вожык з-пад Чарнобыля...

***

– Іван інвалід вайны?
– Аге, як вялі ў ваенкамат, дык выкруцілі руку...

***

Сварка ў хаце. Раз'юшаны Каласок крычыць жонцы:

– Раскалю цябе да пупа, а там сама развалішся.

Жонка адказвае:

– Хочаш, дам табе ў морду моўчкі.

Вось і кажуць у Аўцюках: «Для рота самае галоўнае, каб ён быў закрыты».

***

Пенсіянер-настаўнік працаваў у групе прадоўжанага дня. Аднойчы дырэктар чуе дзікі рогат у класе. Заходзіць:

– Што такое?

Настаўнік засмучаны. А вучань-дзяжурны тлумачыць:

– Пётр Паўлавіч так крычаў, так крычаў на нас, што аж зубы ў яго выпалі...

***

Ішоў аўцюк. Упаў у лужыну. Не можа падняцца.

Трактарам падымалі – не паднялі.

Экскаватарам падымалі – не паднялі.

Хлопцы падымалі – не паднялі.

Прыйшла жонка – і падняла. Павяла дамоў. Смешна?



***

Сусед пытае ў Пецькі:

– Што самае смешнае на вашай бабулі?

Думаў, скажа: «Брудная спадніца». Пецька:

– Наш дзядуля.

***

Жонка вырашыла адвадзіць мужыка піць гарэлку. Ёй падказалі ўкінуць у бутэльку сабачых какешак.

А пра ўсё гэта пачуў аўцюк. От налівае яму жонка сто грамаў з лячэбнай бутэлькі, прыгаворвае:

– Выпі, каласок, на здароўе!

Лыкнуў дзядзька, закусіў дый пачаў гаўкаць за сталом.

Жонка са свякрухай ногі пад пахі ды ходу з хаты.

***

Аўцючку выбіраюць у вертыкаль. Яна супраціўляецца:

– Я нязгодна. Я ніколі не была ў вертыкалі. Толькі – у гарызанталі.

***

Настаўніца дапытваецца ў Федзі:

– Купалу ведаеш?

Маўчыць.

– Коласа ведаеш?

Маўчыць.

– Які памер абутку носіш?

– Сорак першы.

– Сядай – тры!

***

Жонка, калі ўсё ладам, будзіць мужа:

– Уставай, мужанёчак, ужо гудзіць гудочак.

А калі спяць на розных ложках, то крычыць раніцай:

– Уставай, мудзіла, ужо гудзіць гудзіла!

Цётка, аўтарка гэтай смяшынкі, прызналася:

– Ета пра мяне і майго Мішу.

***

Пра аўцюка-гультая:

– Гэта ж ён, каласок, на печы ляжаў і адмарозіў пальцы. У маёй задніцы цяплей, чым на яго печы. Ён жа на вяселлі ледзь з голаду не памёр, ленаваўся жаваць.

***

У аўцюкоўскай краме:

– Калінка, наскі ў вас колькі рублікаў?

– Баба, наскі ў нас на яйцы...

– Не, калінка, наскі трэба майму мужыку на ногі...

***

У аўцюкоўца спыталі:

– Што рабіць лысаму, калі ў яго засталіся дзве валасіны?

– Адну хай зачэша налева, другую – направа.

– А калі адна?

– Хай ходзіць кудлаты.

Сын таго аўцюкоўца ўбачыў лысага і закрычаў:

– Бацька, глядзі! У дядзькі ўсё лоб і лоб. А дзе яго галава?

***

Гасцюе аўцюк у гарадскога дачніка. Купляе той гной і пытаецца:

– Як пазнаць, добры гной ці не?

Аўцюк глыбакадумна пазірае ў неба, аўтарытэтна заяўляе:

– Засунь, каласок, руку па локаць у гной. Дастань. Калі добра пахне – добры гной.

***

На справаздачным сходзе раённы начальнік дакарае даярку:

– Чаму нізкія надоі?

– Каласок, каб мне плацілі добра, то я сваё малако занесла б на ферму. А так – бяру з фермы.

***Правапіс арыгінала захоўваецца.***




# Навіны з МУС: матай на вус

## Не галівудскі герой

***Круглянскі раён.*** Адзін 19-гадовы работнік СВК «Друць» так натхніўся галівудскім блокбастарам, у якім галоўнаму герою неабходна было ўкрасці за адзін дзень пяцьдзясят машын, што ноччу прысвоіў з тэрыторыі прадпрыемства аж два трактары. Толькі далей кювета нецвярозы шафёр заехаць не змог...

Не атрымалася юнаку ўжыцца ў вобраз галівудскага героя. А вось у вобраз злодзея – спаўна: зараз яму пагражае да пяці гадоў турмы.



## Вечны рамонт

***Смалявіцкі раён.*** Хто хоць раз пачынаў рамонт у кватэры, той ведае, што справа гэта вельмі цяжкая і затратная. Адно, калі трэба толькі паклеіць шпалеры, а калі яшчэ лінолеум пакласці, плінтусы прыкруціць, карнізы павесіць?

На што толькі не пойдзеш, каб гэты хаос хутчэй скончыўся! Магчыма, гэта і падштурхнула аднаго бедака на крадзеж з тэрыторыі Смалявіцкага завода «ЖБВ» чатырох шурупавёртаў, дзвюх кантовых піл, электрадрэлі і іншых будаўнічых інструментаў.

Вядзецца следства. І цалкам верагодна, што распачаты рамонт яшчэ доўга не скончыцца...

## Пад гарачую руку

***Барысаў.*** Сутыкнуліся неяк у горадзе дзве машыны. Абышлося без ахвяр, вінаваты вадзіцель кампенсаваў пацярпеламу рамонт машыны. І было б усё добра, калі б апошняму потым не здалося, што сума магла быць і большай. Але вінаваты вадзіцель так не лічыў.

Пасля адмовы былы пацярпелы загарэўся помстай і ноччу разбіў лабавое шкло чужога аўто ды парэзаў шыны. А каб забяспечыць сабе алібі, зрабіў тое ж самае з дзвюма суседнімі машынамі. Гэта якраз і ўбачыў лейтэнант крымінальнага вышуку Барысаўскага РУУС...

Мужчыну затрымалі. За сваю «гарачнасць» яму давядзецца выплаціць немалую суму грошай усім вадзіцелям. Спадзяёмся, гэта астудзіць буйны нораў гарачага вадзіцеля.



***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў і УУС Мінскага аблвыканкама.***

## Эдуард ВАЛАСЕВІЧ

**БАЙКІ**

### Залатая рыбка

На беразе рачулкі, а не мора
Узняўся гмах пад шыльдай
«Рыбкантора»...
Пацела тут нямала малайцоў
І машыністак плойма стракатала,
Ну, а вышэй начальства засядала:
Загадчык па засолцы
і капчэнню селядцоў,
Загадчык па здабычы мух
і іншае прынады,
Загадчык па рамонту
рыбалоўнае прылады,
Загадчык планавання лову,
Загадчык перспектыву клёву.
Дзядзькі што на падбор!
І ўрэшце, нібы недарэчы,
Сухенькі, сівы, вузкаплечы
Рыбак дзед Міканор...
Рыпелі пёркі ды хадзілі ручкі
У дні авансаў і палучкі.
Па рангу кожны меў
і прагрэсіўку, і аклад –
Дзед задаволен, рад і апарат.
Трымаў дзед вуду
ды пасмоктваў піпку,
Цягаў з вады малую рыбку.
І рыбку не абы-якую –
Залатую!

***

Мне скажуць: казачка старая!
На жаль, жыве, не памірае...

*1955 г.*

### Халодная вайна

З-за кашы нейкай,
што ў печы прысмылела,
Ідзе ў сям'і «халодная вайна»!
Муж з жонкай правялі граніцу мелам
І стала паміж імі непраходная сцяна...
Ніякі бок не йдзе на ўступкі,
Не вараць стравы і не паляць грубкі,
Адзін надзьмуўся, як індык,
Другая сыкае, што кошка.
А дзіцяня, гаротненькая крошка,
Аж пасінее – ў крык!..
Да маці туліцца – дык бацька адрывае,
Хінецца к бацьку –
маці лямант узнімае...
Бяда адна!
А што, калі ідзе «гарачая вайна»?
Ляцяць, напэўна, чыгуны і кадкі...

***

Мне скажуць, што няма той хаткі,
Дзе б не бывала звадкі!
Але ж мы улічыць павінны –
Бацькі ваююць, а ў дзяцей
калоцяцца чупрыны...

*1957 г.*

### Зубр і Зайка

Зубру заяву Зайка напісаў.
(Ведаць, што дапякло,
відаць – нагараваўся!
Калі ўжо храбрасці набраўся!)
І вось на золку
Ён да асілка паскакаў.
«Няхай у справе разбярэцца толкам, –
Дарогай Зайка разважаў. –
Не можа быць, каб ад мяне
хвастом ён адмахнуўся!
Ідзе зіма. У кожнага ёсць дом.
І толькі я з сям'ёй тулюся пад кустом,
Пакуль, як кажуць, не загнуся...
Не-не!
Ён дапаможа мне!
Бо дапамог жа Барану і Дзіку...
Вядома: ростам і вагой я невялікі:
Але ж у чым мая віна!
Што, скажам, меншы я Асла ці Барана,
Што хітрасці не маю, як Лісіца,
І не нахабны, як Свіння!»
Чаму – не ведаю тут цвёрда я,
Ды не ўдалося Зайку да Зубра дабіцца
(Асілак, можа, захварэў?)
Бо справамі варочала Вавёрка.
– Як ты надумаўся! –
зацокала яна на Зайку порстка. –
Ці ты здурнеў –
Такою справай дробнай
І турбаваць... Каго? Зубра!?
На што гэта падобна?
– Ды я ж звяртаўся да Бабра
І Барсуку паабіваў я ганак –
Карысці ні на грош,
а колькі абяцанак! –
Ад сакратаркі адбіваўся шэры...
– Ну-ну, давай свае паперы,
Іх па інстанцыі спушчу я, –
І, усміхнуўшыся так міла,
Ў дупло заяву апусціла.
А Зайка? Пад кустом начуе...

***

У байцы маю на прыкмеце
Персон, што зачарсцвелі ў гарсавеце.

*1954 г.*



*Шарж Сяргея РАМАНАВА, 1958 г.*

## Сур'ёзна і з усмешкай

*Калісьці ў нашай літаратуры Эдуард ВАЛАСЕВІЧ (1918 – 1997) трывала прапісаўся як паэт-байкапісец. Байкі Эдуарда Станіслававіча былі не менш вядомыя, чым творы Кандрата Крапівы, нават перадаваліся з вуснаў у вусны. А яго славуты «Хама» стаўся хрэстаматыйным.*

*Аднак у творчасці сваёй Э. Валасевіч звяртаўся і да п'ес-аднаактовак, пісаў лірычныя вершы. Выдаў кнігу санетаў. Лепшыя вершы і байкі змяшчаў у «Вожыку». Чытачы ж ведаюць паэта па шматлікіх кнігах гумару «Залатая рыбка», «Як дбаеш – так і маеш», «Арліны суд», «На вясёлай хвалі», «Казёл адпушчэння», «Туды і рак з кляшнёй», «Сур'ёзна і з усмешкай», «Ячэня на далоні» і многіх іншых. Гумар гэты і сёння не страціў сваёй актуальнасці, бо ён навеяны рэаліямі самога жыцця, у якім заўсёды ёсць велічыні пастаянныя. І заганы таксама паўтараюцца.*

*Адзначаючы 95-годдзе з дня нараджэння выдатнага, таленавітага байкапісца Эдуарда Валасевіча, згадаем і некаторыя яго сатырычныя творы.*




## Чаму сумуе Якуб Колас?

*«Моўны» фельетон*

Гасподзь не абышоў цябе
Ні статнасцю, ні прыгажосцю.
Мой слаўны Мінск,
Люблю цябе,
Але трывожыць штосьці.

Куточкі, мілыя для ўсіх, –
У назвах іншамоўных.
Не зразумееш сэнсу іх,
Чужых загадак поўных.

Ужо не крамы – буцікі,
Не лазні – спа-салоны,
Адно ў парыльні венік свой,
Знаёмы ўсім, зялёны.

А беларускую карчму
Чамусь бістро назвалі,
І нашы дранікі на сале
Французскай ежай сталі.

Насупраць Коласа, як здзек,
Бутэлька з кока-колай.
Білборд у вочы б'е
Чужой, не роднай мовай.

Напэўна, сорам песняру
За нас, за гэту здраду:
Ён, апусціўшы галаву,
Нібы дае параду:

«Не дасць нам шчасця бляск чужы,
Не трэба спадзявацца.
А памяць зарасце быллём –
Тады кім будзем звацца?..»

**Алена ЖЫХАРАВА,**
*Мінскі раён, в. Шчомысліца.*



**– Тс-с-с! Галоўнае – бацькоў не разбудзіць.**

Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




### Сорамна глядзець

Жанчына нясе з кірмаша пеўня галавою назад. Прахожы пытае:
– Чаму жыўнасць задам наперад нясеш?
– Рэзаць буду, – адказвае кабета. – Дык сорамна ў вочы глядзець.

### Падыміў

Каля вогнішча сядзіць дзед, курыць самасад. Да яго падыходзіць унук і просіць:
– Дзед, дай падыміць.
Стары бярэ з вогнішча галавешку і працягвае ўнуку:
– На, дымі: хіба мне шкада?

### Певень ці курыца?

Старая вясковая жанчына прадае на кірмашы птушку. Да яе падыходзіць пакупнік і пытае:
– Што ў цябе, бабуля, певень ці курыца?
– Калі яек не нясе – певень, а калі нясе – курыца...

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

## Абскакаў

Жонка мужа на рынак паслала,
Каб купіў там салёнага сала.
Неўзабаве вяртаецца з рынку.
Пахваліла Кузёмку Ірынка.
– Малайчына! – сардэчна сказала. –
Гэта самае смачнае сала:
І з праслойкай, і недарагое –
Не купляла ні разу такое.
Ды ў Кузьмы нешта крывяцца вусны:
Ад суседа, калі ў двор вярнуўся,
Ён пачуў (і ледзь блага не стала):
Менш на грош заплаціў той за сала.

**Віктар РЭЧЫЦ,**
*г. Івацэвічы.*




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.






**Павел САКОВІЧ**




### Сяргей Волкаў

Па воўчы Волкаў аніколі
На «Вожык» родны не глядзеў.
Ды «Вожык» сам, па ўласнай волі,
Вачыма Волкава наўкола
Заўжды глядзець за шчасце меў!

### Мікола Шабовіч, Дзмітрый Пятровіч

Хоць вагу набраў сатырык,
А здаецца — то-о-нкі лірык.
Ён з Пятровічам сумесна
Стаў рабіць з пародый песні.
Ёсць яшчэ у хлопцаў шанцы:
З эпіграм зрабіць... брэйк-танцы!

### Мікола ЧАРНЯЎСКІ

Ён сціплы, добры і ў гуморы,
Таму і піша без нуды.
У творы жарт які ці гора —
Слязіну выцісне заўжды.

Парой стамляцца сталі ногі,
Бо творца — той яшчэ хадок,
І рэдакцыйныя парогі
Ён абівае сам знарок.

На брудэршафт піў сок з «Бярозкай»,
І ў «шлюбе» ён з «Вясёлкай» быў.
З усёю шчырасцю сяброўскай
Іголкі «Вожыку» тачыў.

А з «Маладосцю», мне здаецца,
Душу і цела цешыў ён,
А ў «Полымя» — хадзіў пагрэцца...
Такі ў Міколы мацыён.

Вось так і будзе, з ласкі Бога,
Ён доўга наразаць кругі...
Няхай Міколу кормяць ногі
І вараць, як раней, мазгі!




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Мікола СІСКЕВІЧ**

### Таленавіты

– Я гэта шчыра вам кажу:
Вялікіх твораў не пішу.
Я дробязі жыцця збіраю...
Шматтомнік з іх другі складаю.

### Пакрыўджаны Пегас

Быў дужа ўжо заезджаны
І ледзь трываў, –
Лісток непрацаздольнасці
Урач не даў.



**Уладзімір СКАРЫНКІН**




Займае гэты маўзалей
Бос крытыканаў знакамітых,
Што на масцітых ліў ялей
І мазаў дзёгцем немасцітых.

* * *

Пад гэтым помнікам схаваўся
Празаік легендарны той,
Які і пры жыцці здаваўся
Пыхлівай статуяй жывой.

* * *

Тут спіць пісьменнік-патрыёт,
Што пры жыцці пра свой народ,
Як правадыр вялікі, дбаў,
Але правадыром не стаў.

* * *

Пад гэтым бронзавым вянком,
Утаймаваны вечным сном,
Спіць майстар з гільдыі паэтаў,
Што віў вянкі з вянкоў санетаў.

* * *

Тут спіць маўчун вядомы. І жывы
Ён быў цішэй вады, ніжэй травы.
За геніяльнае сваё маўчанне
Прыдбаў ён чын і лаўрэата званне.




## Генадзь АЎЛАСЕНКА

### «Умоўна» не атрымалася

*Шчасце наліта па келіхах розных.*
*Выпіўшы, будзеш умоўна цвярозы.*
*Юлія НОВІК*

Я прачытаў і праверыць рашыў,
Бо гэтым «шчасцем» нямала грашыў.
Збегаў у краму, бутэльку купіў,
З келіхаў розных я «шчасцейка» піў.
Доўга трымаўся цвярозым умоўна...
Ну, а затым – адключыўся раптоўна!
Можа, не тое я штосьці рабіў?
Не ў тым парадку, мо, з келіхаў піў?
Можа, умоўна п'янець я не ўмеў?
Ці ўсё ж паэтку не так зразумеў?!

## Расціслаў БЕНЗЯРУК

### Быццам ямб на харэй

*З гадамі мы становімся*
*мудрэй –*
*Да нас прыходзіць*
*добры сябра – вопыт, –*
*І мы глядзім на свой*
*жыццёвы побыт,*
*Як ямб глядзіць спакойна*
*на харэй.*
*Надзея ПАРЧУК*

На цябе я гляджу,
Быццам ямб на харэй,
І з усмешкай кажу:
– Мілы мой, не старэй!
Вопыт – сябар для нас:
З кожным годам мудрэй
Услаўляем мы час
Цераз ямб і харэй...
Шчасце нас не міне.
Хоць адзеньце ў парчу,
Ты пазнаеш мяне:
Я ж – Надзея Парчук!



## Янусь МАЛЕЦ

### Кемлівы ўнук

*Ясенезнаўцам быў Радзечка...*
*Мікола ШАБОВІЧ*

У вёсцы, седзячы ля печкі,
Задумны дзед ажно стагнаў:
– І што за гэткі там Радзечка,
Якога ён Ясена знаў?!

Падсеў унук, зусім малеча:
– Дзядуля, хопіць мо стагнаць?
Каб разабрацца ў гэтай рэчы,
Шабовазнаўства трэба знаць!..




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## Мікрасход

– У школе сёння
Будзе мікрасход, –
Гаворыць маці
Раніцай Фядот.
– Што там за сход:
Не зразумець ніяк?
– Настаўнік прыйдзе,
Татка, ты і я...



## Ручка падвяла

Настаўніца ў час
Перапынку
Пазвала
Да сябе дзяўчынку:
– Паслухай, Ала,
Ды мне раскажы,
Чаму ў тваім сшытку
Почырк чужы?
– Магчыма, таму, –
Зардзелася Ала, –
Што я не сваёю
Ручкай пісала.




**Міхась ПАЗНЯКОЎ**




## Кот

На бярозе спеюць грушы,
А на дубе – вінаград.
Кот грыбы ў бярлозе сушыць
І частуе мышанят.

## Ну і ну!

У вадзе жывуць вавёркі,
У дупле жывуць бабры.
Совы – ў возеры глыбокім,
А самы́ – ў густым бары.

Пчолы спяць зіму ў бярлозе,
А мядзведзі – у вуллі.
Конь спявае на бярозе,
Вераб'я ў плуг запраглі.

## Сена

Сена з плуга прыляцела
І ў хляве карову з'ела.

## Цуд

Вось дык дзіва,
Вось дык цуд! –
Кракадзіла
З'еў вярблюд.

## Па сакрэце

Вы не бачылі?
Не чулі?
Па сакрэце гавару:
Мышкі кошку
Зацягнулі
У глыбокую нару.

## Рыбак

На рацэ маторнай,
Па глыбокай лодцы
Шчупакоў у мора
Вёз рыбак у бочцы.






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Хуткасць – не галоўнае!





















Малюнак Алега ГУЦОЛА.




### Лепш цэлыя

Бабуля пытаецца ва ўнучкі:
– Надзя, будзеш есці драныя бліны?
– Не, бабуля, я лепш цэлыя, – крыху падумаўшы, адказвае тая.

### Ясна напісана

Дзядуля частуе ўнучку яблыкам. Малая бярэ яго ў руку, пільна разглядае і паказвае пальцам на чарвяточынку:
– Дзед, ты што, не бачыш? Тут жа ясна напісана, што ў яблыку жыве чарвяк!

### Навучылася пісаць

Надзя навучылася пісаць. Бабуля просіць:
– Калі ласка, напішы слова «Андрэй».
Малая піша.
– Ну, пакажы, што атрымалася!
Бабуля зазірнула ў сшытак і рассмяялася: там было напісана слова «тата». Так завуць бацьку...



**Запісала Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*

## Прыгожы гол



















Коміксы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Паважаныя чытачы!

Прадстаўляем новую рубрыку «ГУмар СЯброў».

Час ідзе – і ў «Вожыка» з'яўляюцца новыя сябры па ўсім свеце, але мы не забываем сваіх старых таварышаў — гумарыстычныя часопісы былых саюзных рэспублік. Хоць большасць з гэтых выданняў зараз не выходзіць, мы ўсё ж засталіся сябрамі з тымі мастакамі, якія цяпер апынуліся за мяжой. Для добрага гумару няма межаў і мытняў, як, дарэчы, і для гусей, якія вольна лётаюць па ўсім свеце. Хай жа і наш «ГУСЯ» падарожнічае па краінах ды прымушае нас успомніць мінулае і – усміхнуцца!..



Малюнак Д. МЕЛГАЛІСА («Дадзіс»).



— Ану, дзеткі, хто яшчэ не заплюшчыў вочкі?!

Малюнак А. АЛЁШЫНА («Чаян»).



Малюнак К. БРОНЗІТА («Чаян»).




Малюнак Л. БОЧКАВАЙ («Чаян»).



— Я, унучак, яшчэ памятаю, як будавалі гэты дом.
— А я — як гэты!..

Малюнак В. ЛУГВІНЁВА («Чаян»).



Малюнак Д. МЕЛГАЛІСА («Дадзіс»).




Малюнак Р. АБЗАЛАВА («Чаян»).



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.






Шаноўныя сябры!

Сёння мы нарэшце аб'яўляем пераможцаў конкурсу, якія даслалі нам свае вершаваныя радкі да фота, змешчанага ў леташнім 12-м нумары «Вожыка». **1-е месца** і падпіска на часопіс на тры месяцы (красавік, май, чэрвень 2013 года) дасталіся дэбютанту конкурсу **Мікалаю СТАРЫХ** з г. Гомеля: *«Кожны хобі сваё маё: хтосьці таньчыць і спявае, хтось – збірае этыкеткі, кнігі, маркі ці манеткі. Хтосьці ж любіць абы-што мацаваць да шкла аўто!»* **2-е месца** заняў актыўны вожыкавец **Анатоль ГАРАЧОЎ** з в. Даўнары Іўеўскага раёна: *«Калі куды пад'ехаць трэба, то ты дазволу не пытай. Вунь указальнік ёсць: «На неба», дык адпіхніся і – ўзлятай!»* і атрымаў падпіску на часопіс на два месяцы (красавік, май 2013 года). **3-е месца** і падпіска на часопіс на адзін месяц (красавік 2013 года) чакае таксама нашага даўняга сябра **Мікалая НАВАРЫЧА** з г. Мінска: *«Хто сказаў: «Стары-ы-ыя сані!..»? Ў мяне «прыкід» для аўтаралі!»*

Аўтар фота **Андрэй СКРЫННІК** з г. Віцебска атрымаў сваю заслужаную ўзнагароду: падпіску на «Вожык» на тры месяцы (красавік, май, чэрвень 2013 года).

Віншуем пераможцаў!





Малюнкі Алега ГУЦОЛА.

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 3 (1494), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ГЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка* Ала ГРЫГАРЧУК.

**Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 284-66-72, факс — 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 11.03.2013
Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,59 Тыраж 1945 экз.
Заказ 815.

Кошт нумара ў розніцу 14000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.